## ВЕРА НАШАЕ ЗЯМЛІ

…Адна за адной рушыліся цьвердзі, патаемна прападалі, а то проста на вачох гінулі людзі; афярай юрлівасьці, разбэшчанасьці і бздурства станавіліся чыстыя ідэі, гэніяльныя пляны, прыгожыя праекты Будучыні. І вось настаў час, калі не засталося на Нашае Зямлі аніводнага прафэсыйнага рэгулярнага войску літаратараў. Адпор чужынцам у забраным Краі мусіць даваць сам народ. То згасае, то з новай сілай успыхвае ў Краі партызанская вайна, дзе бой вядзецца не па вайсковых правілах, але згодна з прыроджанымі здольнасьцямі ды спрытам кожнага ваяра. Не засталося прафэсыйнага войску і па-за межамі Нашага Краю. Пэўна мы цяпер у горшым становішчы ад палякаў, калі тыя, плачучы, гукалі некалі Легіёны Дамброўскага *z ziemi włoskiej do Polski*. Палякі здолелі тады выгукаць свой *Polski Hymn Narodowy*. А ў нас німа мужчынскага войску, але засталася на Зямлі Матка, Матэрыя, якая дае жыцьцё, паводле якой ствараецца матэрыяльны сьвет, таму ест у нас Надзея адрадзіць Нашую Зямлю.

І я плакала, калі Пані Юзэфа чытала мне свой Разьвітальны Верш, а пасьля адказала ёй сваім Вершам:

Плакала Цёця Карольця
Па яблыні, бурай зламанай,
І сьлёзы яе на Літоўскім грунце
Яблыкамі недасьпелымі
На галіне абарванай ляжалі.

Ах, каб быў гаспадар у хаце
Ды падпёр яблынь цяжкія галіны!
Не было яго – і сьлёзы цяклі па сьвеце,
Сьлёзы жаночыя
Горкай тугі адзінай.

Плакала ў Хаце Жанчына
Цэлую ноч наварочную,
Прыпамінаючы, як яна кленчыла
Прад маскалямі п’янымі,
Вугольле гневу ў душы варочала.

Жанчыны Літоўскія!
Нашай Зямлі Жанчыны!
Разам паплачце, і верце, і ведайце:
Сьлёзамі Вашымі дзейснымі
Будзе ўратавана Айчына!

Але тут чуваць зьедлівы голас недаверка: “А нашто Жанчынам Літоўскім плакаць разам?” Адкажу яму гэткімі словамі. Супрацоўніцтва бальшыні жанчын павінна скласьціся дзеля ўсталяваньня раўнавагі сьвету. Менавіта тая разнавага, што ўсталявалася цяпер, пагражае гібельлю чалавецтву і самой плянэце. Ня можа сьвет стаяць, калі парушаны падмуркі быцьця. Харугву вялікай раўнавагі сьвету дадзена ўзьняць жанчыне. Так, настаў час, калі жанчына павінна заваяваць правы, ад яе адабраныя, і тыя, якія яна добраахвотна аддала. Сусьветны развал, выраджэньне, тое, на што мы змушаны пазіраць цяпер, асабліва ў нашым забраным Краі, асабліва ў вёсках нашых, якія балесна канаюць, сыходзяць на звод – гэта ест наступствы спрадвечнай разнавагі ды прыгнёту жанчын. Прынізіўшы жанчыну, мужчына прынізіў сябе, і без адраджэньня праўдзівага рыцарства, шляхэтнасьці, як Мы, Літвіны, кажам, Літвінскасьці – дух ня можа ўзьняцца. Таму жанчына павінна настолькі ўзьняцца сама духова ды інтэлектуальна, каб мужчына, зачараваны гэткай красою і мужнасьцю Літоўскай Гражыны, мог пайсьці за ёю.

У такіх умовах куецца Нашая Зброя. *Плакаў-плакаў – Бог адзінакаў, а як стаў рагатаць – пачаў Бог памагаць*, – гэта ест Вера Нашае Зямлі.

Простыя й дасьціпныя, жывыя й ўдалыя, а то дзёрзкія, а то зьвернутыя да Маткі Боскай сьпеўныя просьбы жанчыны аб долі для сваіх дзяцей, унукаў, блізкіх, суседзяў – Вершы Пані Юзэфы падобныя да пэрсанажаў Народнай Батлейкі, якую Вольныя Літвіны ладзілі некалі на Нашай Літве.

Варта сказаць таксама пра вершы, аб’яднаныя назвай “Мой сынок, як ты далёка...”. Назва вынікае з радку вершу, афяраванага маткай для сына. Папраўдзе гэта вершаваная хроніка сыновых крокаў, а таксама тых грамадзкіх дзеяў, што адбываліся за імі і маглі бы стацца

Чынам Нашага Супрацiву нутраной акупацыi забранага Краю. Каб мы змаглi толькi расплюшчыць вочы, каб мы змаглi толькi прачысьцiць вушы, каб убачыць, каб пачуць... Бо абуджэньне, як крынiца, нарэшце рушыла з саменькага нiзу, з самага нутра нашай спакутаванай Зямелькi-Маткi.

Кожная шчырасьць мае права быць узброенай. Панi Вершы Юзэфы шчырыя й моцныя, яны абароняць сябе самi, i такiм чынам, натуральна, бяз гвалту сьцьвердзiцца Вера Нашае Зямлi.

Ганна Матусэвiч
Койданаў, 14.02.2010.

# Пачатак і вершы розных гадоў

***

Дачушка мая машыну прыдбала,
Пасьля ў ДАІ і правы атрымала.
Вучылася доўга, ёй цяжка было,
Але навучаньне ўсё ж памагло.

Каб жа ўсё ладна цяпер даў ёй Божа,
Каб ёй заўжды шанцавала ў дарозе.
Бо вельмі страшныя выпадкі бываюць,
Як пры аварыі людзі ўміраюць.

Маці Будслаўская, абарані
Маю дачушку Ты ад бяды!
Каб ёй дарога шчасьлівай была,
Каб Ты заўсёды ёй памагла.

01.07.2002.

***

Прыйшлі ў бальніцу хлопцы лячыцца,
А потым глядзяць, каб толькі напіцца.
Нап'юцца гарэлкі, песьні заводзяць
І медсястрычак зь цярпеньня выводзяць.

Падходзіць пара ўколы даваці,
Медсёстрам прыходзіцца іх паднімаці.
Медсёстры крычаць, праганяюць дамоў,
А яны, п'яныя, валяюцца далоў.

Адзін жа хлапчына, такі лайдачуга,
Худзюшчы, даўгі, як пастырская пуга,
Як страшна гарэлачку ён ужо піў
І есьці ў сталовую сам не хадзіў.

Але, як толькі доктар прыйшоў,
Хутка ён мейсца ўсім ім знайшоў.
Выгнаў з бальніцы ўсіх лайдакоў:
– Каб больш вас ня бачыў, ідзеце дамоў!

2.07.2002.

***

Сёньня з бальніцы пайду я дамоў,
Каб не турбаваць больш дактароў.
Я праляжала пятнаццаць дзянькоў,
Патурбавала шмат дактароў.

Каб не балела, уколы давалі,
Яшчэ й таблеткі, каб памагалі.
Дзякуй медсёстрам, і дактарам,
І санітаркам, што мылі ўсё нам.

Дзякую тым, хто яду гатаваў,
І тым жанчынам, хто раздаваў.
Дома за ўсіх вас я памалюся
І, адыходзячы, усім пакланюся.

5.07.2002.

***

Скора посная Куцьця,
Тады будуць Каляды,
У каго грошы; як няма –
Людзі ня будуць рады.

Бо ня купяць селядзец,
Кансэрву таксама,
А дзеці будуць прасіць:
– Дай лепшае што, мама!

У калгасе хто працуе,
Грошы зарабляе,
Каб кожны месяц атрымаць,
Дык гэтага ня мае.

За збожжа, мяса й малако,
Каторае прадалі,
То калгасу за ўсё гэта
Грошы не аддалі.

12.12.2002.

***

Прыйшла бяда нязваная,
Здароўе падвяло.
І сыну майму Паўліку
Парэзалі нутро.

Паехала адведаваць
У Вілейку я яго.
Знайшла ў рэанімацыі
Жаўценькага ўсяго.

Ах, Матачка Найсьвеньшая,
Ратуй майго сынка.
Бо я тут непамоцная,
Ты памажы сама.

***

Новы год ужо прыйшоў
Дзьве тысячы трэці.
Дай Божа мне яшчэ пажыць,
Каб скора не памерці.

Паглядзець, як яно будзе
У нас, у краіне,
Хто ёй будзе кіраваць,
Ці можа зусім згіне.

У БНФе невядома,
Ці зоймуцца справай.
Зусім нікога там няма,
Каб кіраваць дзяржавай.

2.01.2003.

# Сустрэча

Надышоў гэты вечар
Вучням сабрацца.
Усе будуць разам
Яны ўсьміхацца.

Дзесяць гадоў
Не былі яны разам.
Вось сёньня пра іх
Мы ўсім вам раскажам.

Хто дзе вучыўся,
І дзе хто працуе,
І дома хто колькі
Дзетак гадуе.

Дай Божа ім шчасьця
І добрае долі.
А мы не забудзем
Пра вучняў ніколі.

24.01.2003.

***

Сакавік, хоць і халодны,
Але гэта ўжо вясна.
Жаваронкі прыляцелі,
Хоць вясна і не ясна.

Трактары ў поле выйшлі,
Угнаеньне расьсяюць,
Жаўрукі высока ў небе
Свае песенькі пяюць.

Скора час гэты настане,
І пралескі зацьвітуць,
І мурашкі з сваіх хатак
Па зямельцэ пабягуць.

А як сонейка сагрэе,
Тады й пчолкі палятуць,
Каб мядку сабраць дзе трошкі –
У свае вульлі панясуць.

15.03.2003.

***

У ніводнай краіне
Мова свая ня гіне.
Толькі ў нас, у Беларусі,
Чытаць, пісаць па-руску мусім.

А мову родную сваю
Тут нішчуць, топчуць,
Як траву.

Якая ж гэта незалежнасьць?
Якая гэта Беларусь?
Парлямэнт наш як выступае,
То чуеш толькі адну русь.

А гэта ж сорамна, панове,
На чужой мове гаварыць!
Які вы прыклад усім даеце?
І як далей нашчадкам жыць?

16.05.2003.

***

Як бы толькі дачакацца
На ўсё гэта паглядзець:
Як будзе ўсюды ў Беларусі
Бел-чырвоны сьцяг вісець.

Гэта сьцяг, ён нашых продкаў,
Зь ім ў змаганьне йшлі тады,
Каб жылося ўсім добра
І ніхто ня знаў бяды.

Ну, бяда ўжо напаткала,
Людзей нішчуць нізашто
І ў турмы тых саджаюць,
Хто за лепшае жыцьцё.

29.05.2003.

***

Доктар Івінскі
І жонка таксама,
У бальніцы працуюць
Яны дактарамі.

Іх хворыя ждуць
Кожны дзянёчак,
Глядзяць, як ідзе
Іх дактарочак.

Паслухае доктар
Плечы і грудзі
І кожнаму скажа:
– Усё добра будзе!

Нас добрым словам
Доктар ратуе.
Няхай у жыцьці ім
Заўсёды шанцуе.

10.07.2003.

***

Старшыня наш Вайнілка
Вельмі добра працуе.
Ён для працы калгаснай
Сябе не шкадуе.

Ён рана ўстае,
Позна спаць лажыцца;
Праз калгасныя справы
Ён ня можа жаніцца.

Але можа, Бог дасьць,
Дзяўчыну знойдзе сабе
І тады да касьцёлу
Пад вянец павядзе.

Мы ўсе будзем рады
Ягонай жаніцьбе,
І ў ягоным жыцьці
Няхай добра ўсё выйдзе.

Каб Вайнілку не мяшала
Раённае "брацтва",
Куды здаць малако,
Каму прадаць мяса.

Ён жа сам гаспадар у сваім калгасе,
Ён жа хоча, каб усё было ў запасе.
Тады б калгасьнікі зусім не сумавалі,
Бо зробленыя грошы хутка б атрымалі.

Няхай добра ўсё будзе
Спадару Вайнілку,
Ён ніколі ў працы
Ня зробіць памылкі.

30.07.2003.

***

Пятнаццаць дзянькоў
У бальніцы ляжала.
Тады ж я дома
Не працавала.

Муж у гародзе
Парадак навёў.
Там нарасло ўжо
Шмат агуркоў.

Ёсьць там цыбуля
І бурачкі,
Ёсьць там і кроп,
І кабачкі,
Морква ёсьць,
Фасоля, памідоры.
Табе дзякуй, Божа,
Гарод хоць ня хворы.

17.08.2003.

***

Вось і лета прайшло,
Птушачкі адпелі,
У далёкі свой шлях
Ужо адляцелі.

Восень – сумная пара,
Холад наступае.
Усё з поля ўбіраюць,
З дрэў лісьце ападае.

На двары ідуць дажджы,
Сьнег мокры выпадае.
І зрэдку нават уначы
Глеба замярзае.

Каровы ў поле ўжо ня ходзяць,
У хлеве сталі рана.
Гэта кастрычнік іх падвёў
Сваімі халадамі.

15.10.2003.

**Сьвята**

У Будславе, у бібліятэцэ,
Сьвята адзначалі,
Сацыяльных працаўніцаў
Усіх віншавалі.

Шмат песень для іх пелі,
Там музыка гучала.
Я таксама для іх
Свае вершы чытала.

Як разьвітальны верш чытала,
Ўсе плакаць сталі.
А гэта ж трэба, як памром,
Каб нас не забывалі.

Я жадаю тым жанчынам
Посьпехаў у працы,
І цярпеньня, і здароўя,
І дабра ў іх хаце.

13.01.2004.

***

Вельмі цяжка зьвярам
У халодную зімку.
Сьнегу так намяло –
Ня знойдуць травінкі.

Зайцы хоць трошкі
Кары пагрызуць,
Кабаны-небаракі
Каранёў не знайдуць.

Ды ўсім зьвярам цяжка:
Ласям і казулі.
Толькі добра мядзьведзям,
Бо яны ўсе заснулі.

А вясна як настане,
Тады ўсе зажывуць.
І лісіцы да хатаў
Па курэй пабягуць.

22.01.2004.

***

Вёскі зусім апусьцелі,
Людзей стала мала.
Уся моладзь з калгасу
Даўно паўцякала.

Усе зьехалі ў горад
Работу шукаці,
А на роднай зямельцэ
Ня хочуць працаваці.

У калгасе мала плацяць,
А работы многа.
Вось і вабіць маладзёж
У гарады дарога.

13.03.2004.

***

Божа мой, як далей жыць!
З краінай што зрабілі!
На тэлебачаньні зусім
Мову сваю забылі.

Навіны чуеш кожны дзень
На рускай, чужой мове.
А ня трэба так рабіць,
Дыктары-панове.

На вуліцы хай гаворацць
На ўсялякай мове,
А з экрана чуць мы хочам
Родную, панове.

Радыё яшчэ нас цешыць,
Больш чуем роднай мовы.
Прад яе вядучымі
Мы кланяцца гатовы.

14.03.2004.

## Нараджэньне

Які цуд для нас зьявіўся:
У дачкі сынок радзіўся!
Дай жа Божа добрай долі,
Каб бяды ня знаў ніколі.

Каб ты рос і быў здаровы,
Да людзей ня быў суровы,
Каб вучыўся на “выдатна”
І да працы быў ты здатны.

Мой унук, ты будзь шчасьлівы!
Дай жа Божа табе сілы,
Каб ніколі не хварэў
І сваю кватэру меў.

06.06.2004.

***

У Крывічах, у бальніцы
Чысьціня, парадак.
На тумбачках і падлозе
Ня знойдзеш асадак.

А медсёстры й дактары –
Цудоўныя людзі!
Яны лечаць усё:
І плечы, і грудзі.

Там грэюць таксама
Калені і рукі,
Каб людзі ня чулі
Больш сваёй мукі.

А есьці на кухні
Добра гатуюць.
Наеўшыся, людзі
Зусім не сумуюць.

Там жа ўсіх кормяць
Чатыры разочкі,
Каб жа ў хворых
Сьвяціліся вочкі.

А ля бальніцы
На лавачцэ сядзеш –
Шмат кветак цудоўных! –
На іх ты паглядзіш.

Дзякуй тым людзям,
Хто гэта ўсё робіць!
А мне ў бальніцу
Каб больш не прыходзіць.

24.06.2004.

***

Да бабулі ўнук прыехаў,
Каб на ёлку паглядзець,
Ды на санках пакатацца,
З горкі ў гурбу заляцець.

У хаце ёлачка стаіць,
Пад ёй коцік малы сьпіць.
Ён ня чуе і ня бачыць,
Што хлопчык на яго глядзіць.

Так хацелася малому
З коцікам там паляжаць!
Толькі хлопчык дакрануўся,
Коцік тут стаў уцякаць.

Коцік вельмі ўжо спужаўся,
Пад канапу ён схаваўся.
З-пад канапы як асталі –
Яны дружыць тады пачалі.

27.12.2008.

***

Памінальны дзень настаў –
Маліцца ўсім трэба
За памерлых сваякоў,
Каб Бог узяў да Неба.

А жывым на зямлі
Лепш сябе паводзіць трэба,
Каб па сьмерці адпусьціў
Бог крышачку Неба.

30.10.2009.

## НЕ НА ТУЮ ЁН НАРВАЎСЯ, КАБ МЯНЕ ДЫ ПАДМАНУЦЬ!

***

З бальніцы вярнулася ўчора дамоў
І больш ня бачу сваіх дактароў.
Работы рабіць я не магу,
Але хоць лыжкі памыць памагу.

Можа Бог дасьць папраўлюся скора,
Тады ўжо ня будзе ніякага гора.
Цяжка ж было старому майму
Работу рабіць усё аднаму.

Але нічога, што парабляў,
Затое ў маладосьці
Ён больш пагуляў.

06.07.2002.

***

У нашым калгасе
Калісьці было так:
Усё так разакралі!
І хто тут быў мастак?

Аграном і старшыня,
І дзьве кладаўшчыцы!
Скора яны разжыліся,
Гэтыя маладзіцы!

Мэблю, вобуй і каўры –
Усё пакуплялі
За калгаснае дабро,
Каторае кралі.

Агранома за дабро
Міліцыя забрала,
А самога старшыню
Турма мінавала.

Кладаўшчыцам павязло:
Засталіся дома.
Аграном крадзёж узяў
На сябе, вядома.

Памянялі старшыню
У гэтым калгасе.
Тут нічога не было
Ані ў запасе.

І скаціны зусім мала
У калгасе засталося.
Старшыня цялят купляў,
Каб больш разьвялося.

Трактары ў калгас купіў,
Камбайны таксама.
Калгас угору ён падняў,
Гэты хлопец слаўны.

А пятай рана ўжо ён едзе,
Поле правярае.
Ён напэўна брыгадзірам
Ані не давярае.

Але гэта вельмі добра,
Што сам усё бачыць.
Ён жа ведае каго
За працу адзначыць.

13.07.2002.

***

Яшчэ ў школу я хадзіла,
У камсамол тады ўступіла,
Пахвалілась дома маці,
Што камсамолка будзе ў хаце.

Маці повад ухапіла,
Камсамолку надта зьбіла,
Нават есьці не давала,
Яшчэ й з хаты праганяла.

Гавару сваёй матулі:
– Пачці сілай уцягнулі
У чортаў гэты камсамол.
Маці б’е, а я пад стол.

А ў Касьцёл як я схадзіла
Вербачку пасьвеньціць,
Дык прыехалі з раёну,
Мяне сталі сьвеньціць.

Два гадочкі пабыла
У гэтым камсамоле.
Як пайшла кароў даіць,
У партыю ўпёрлі скора.

Вось якое адбылося
У маёй маладосьці.
Вельмі многа пацярпелі
За гэта мае косьці.

8.11.2002.

***

З вострай пнэўманіяй
Ляжу я ў бальніцы.
І са мной яшчэ ляжаць
Дзьве маладзіцы.

Уколы мне даюць чатыры,
Таблеткі таксама.
Дачка ўчора прыяжджала
Адведаць, як мама.

І ўнук ка мне прыйшоў,
Прынесьлі ласункаў.
А як муж мяне адведаў –
Зусім з пустой сумкай.

А сабе ён прызапасіў
Вінішка, вядома.
Вось дадому як заедзе –
Гэта невядома.

27.05.2003.

***

Ляжу я ў палаце,
Сонца ў вакно сьвеціць,
Птушачкі сьпяваюць –
Як хораша на сьвеце!

Жыць усе мы хочам –
Лечымся ў бальніцы.
А доктар Кулаковіч
Ляжыць ужо ў цямніцы.

У вапошнюю дарогу
Яго правялі,
У сырую зямельку
Труну аддалі.

Усе разышліся
Дадому-дахаты,
І ў яго дзетак
Ня будзе ўжо таты.

І мама іх таксама
Руку паламала.
Вялікае гора
Сям'ю напаткала.

31.05.2003.

***

Сабраліся пагуляць
Людзі на прыродзе.
Не ўдалося чалавеку
Пабыць у народзе.

Увечары ў бальніцу
Прывезьлі мужчыну.
Пчала яго ўкусіла,
Ды за лабавіну.

Чалавек прытомнасьць страціў,
Тут яго ратуюць,
Рознымі ўколамі
Яго рамантуюць.

Хлопчык яго вельмі плакаў
І прасіў татулю:
– Татачка мой, не ўмірай,
Я цябе шкадую!

Чалавека дактары
Вылечылі скора.
Усёй сям’ёй пайшлі дамоў,
Больш ня мелі гора.

04.06.2003.

**Выпадак**

Ішоў з работы чалавек,
Пра бяду й ня думаў.
А насустрач яму хтосьці
Матацыклам стукнуў.

Напавал зьбіў чалавека,
Яшчэ й пераехаў.
Ён хацеў бы ўцячы,
Ды хтосьці пад’ехаў.

Хлопцы выйшлі із машыны,
Усё разглядаюць.
Бачаць: хтосьці чалавека
З дарогі сьцягаець.

Хлопцы тут жа закрычалі:
– У хату трэба несьці!
І хуткую выклікаюць,
У больніцу каб адвезьці.

Доктар хуценька прыехаў,
Зрабіў перавязку.
Каб жывога давезьці,
Нюхаць даваў маску.

Сабраліся дактары,
Яго ратавалі.
Што жывы ён застанецца,
Усе і не чакалі.

Дзевяць сутак праляжаў
Чалавек у коме,
На дзесятыя аджыў.
Зараз ужо дома.

Вінаваўца адкупіўся,
Каб не адвячаці.
А ці змысьліў ён пра тое,
Што думае Сьвятая Маці?
2004.

***

Заказала я абрэзкі
Зь піларамы, з Крывічоў.
Трактарыст прывёз мне скора,
Але ўзяў ён больш рублёў.

На трынаццаць тысяч болей
У мяне ён адхапіў.
А барыш дала я добры,
Каб з рабочымі прапіў.

Барышу ён не аддаў,
А сабе ўсё забраў.
І ўсе мае паперы
За мяне ён падпісаў.

Не на тую ён нарваўся,
Каб мяне ды падмануць!
Каб я совесьці ня мела,
Магла б і ў суд яго цягнуць.

Напэўна шмат разоў рабіў
І шмат людзей ён падмануў,
Але так у яго вялося –
На гэты раз і не ўдалося.

22.07.2008.

## ДЗЯКУЙ БОГУ І КСЯНДЗАМ БУДСЛАЎСКАГА КАСЬЦЁЛУ

***

Ксёндз Франьцішак Грынкевіч
Памёр у бальніцы.
За яго ўсім трэба
Зараз маліцца.

Вельмі многа зрабіў
Ён для касьцёлу,
Але ў Будславе нашым
Перажыў шмат гора.

Сабе людзі многа
Зарабілі грэху,
Бо кепска гаварылі
Да канца яго веку.

Такія вось людзі
У пекла ўсе пойдуць.
Цябе, ксёндз Франьцішак,
Анёлы ўзносяць.

Душу Тваю ў Неба
Узносяць анёлы,
Яна ўжо ня будзе
На зямлі, у няволі.

А целу Твайму
Няхай зямля будзе пухам,
А Ты спачывай
Са Сьвятым Духам.

06.08.2002.

***

Дзякуй Богу і ксяндзам
Будслаўскага касьцёлу!
Так добра ўсё робяць –
Нам ня будзе гора.

Яны езьдзяць да вёсак,
Імшу адпраўляюць
І ўсіх старэнькіх
Там спавядаюць.

Людзей шмат ёсьць хворых,
Баляць надта ногі
Прыйсьці да касьцёлу
Зь вялікай дарогі.

На могілках таксама
Ксяндзы там бываюць,
За ўсіх памерлых
Імшу адпраўляюць.

22.08.2002.

## Жніво

Самадзейныя артысты
Будслаўскага клюбу
Камбайны ў поле правялі –
Глядзець было люба.

Славамір Вэдлугін,
Ксёндз нашага касьцёлу
Першае жніво пасьвеньціў,
Каб жалася скора.

І паехалі ўсе жаць
Нашы камбайнёры.
Збажыны яны нажнуць
Вялікія горы!

Усё добра ўрадзіла
У нашым калгасе.
І дзяржаве прададуць,
І будзе ў запасе.

Шафёры таксама
Добра ўсе працуюць,
На гэтай сьпякоце
Сябе не шкадуюць.

Трактарысты скора
Саломку зьбіраюць,
Усьлед за камбайнамі
У стагі складаюць.

Хоць і цяжка працаваць
Кожны дзень так многа,
Але заўсёды вы прасеце
Помацы ў Бога!

28.08.2002.

***

Дзеці нашай Беларусі,
Верце ўсе ў Бога!
Тады заўсёды будзе ў вас
Шчасьлівая дарога.

Дарога гэта ў жыцьцё –
Вучоба й работа.
Бог абароніць ад бяды,
Яго гэта клапоты.

Маці Божая паможа
У цяжкую хвіліну.
Вы любеце й шануйце
Родную краіну.

15.06.2003.

***

У ноч на Каляды
Езус нарадзіўся.
Хутка ў Яго цела
Сьвяты Дух ўсяліўся.

Езус хутка вырас
І дарослым стаў.
Тады хворым людзям
Ён дапамагаў.

Маці Божая Марыя
Рада свайму сыну.
І бацька, Сьвяты Юзаф,
Кажа: “Не пакіну”.

Гэтая сям’я Сьвятая –
Людзі ўжо пазналі,
І Анёлы Сьвятыя
Ім дапамагалі.

16.01.2004.

***

Мы дары ў Касьцёл прынесьлі
Ад шчырага сэрца,
Усе просім Пана Бога,
Каб скора не памерці.

Бо як прыгожа жыць на сьвеце,
Усё бачыць навокал,
Чуць, як птушачкі сьпяваюць
І лятае сокал.

Дзякуем ксяндзам мы нашым,
Што нас спавядаюць
І нашу вёсачку малую
Яны не мінаюць.

Я ад сябе шчыра прашу
Прысутных у Касьцеле,
Каб ніколі ні на кога
Абіды ня мелі.

10.09.2005.

## ДА МАЦІ БОЖАЙ БУДСЛАЎСКАЙ

### Фэст

У Будслаўскім касьцеле фэст,
Будзе шмат народу.
Маці Божая, пашлі
Добрую пагоду.

Людзі едуць і ідуць
Сьвятыні пакланіцца,
Маці Божай Будслаўскай
Шчыра памаліцца.

Вельмі цяжка стала жыць
Нашаму народу.
Людзі хочуць папрасіць
Тваю дапамогу.

Я таксама прашу
Цябе, Маці Езуса,
Кожны дзень да Цябе,
Да Будслаўскай, малюся.

Каб Ты дзетак маіх
Ад бяды бараніла,
Каб дарога ў жыцьцё
Ім заўсёды сьвяціла.

16.06.2002.

## Пілігрымы

У нядзельку ў Будслаў
Ідуць пілігрымы
Маці Божай маліцца
За сваю Радзіму.

А я невядома,
Ці пamалюся,
Табе, Сьвятая,
Ці пакланюся.

Я тут хварэю,
Ляжу ў бальніцы.
Можа прывязуць мне
Сьвянцонай вадзіцы.

Малецеся ўсе,
Малецеся, людзі!
Можа шчасьце й нам
Хоць крыху прыбудзе.

Маці Будслаўская,
Маці Сьвятая,
Абараняй нас,
Ты, дарагая!
Ад розных пакутаў
І ад бяды,
Маці Будслаўская,
Абарані!

23.06.2002.

***

Маці Божая, ратуй
Людзей Беларусі,
Каб бед вялікіх не было.
А мы маліцца мусім.

Бо на сьвеце бедаў шмат:
Патопы й буры.
Вельмі многа гінуць там
Людзкія фігуры.

Маці Будслаўская наша
Разам і зь Езусам,
Баранеце ад бяды
Нашых беларусаў.

Да касьцёлу людзі йдуць
Табе пакланіцца,
На Абраз Твой паглядзець,
Шчыра памаліцца.

Як гляджу на Твой Абраз,
Як дзяржыш Сыночка,
Успамінаецца той крыж,
Дзе Езус заплюшчыў вочкі.

Маці Божая наша,
Шмат Ты гора мела,
На крыжы як Сын канаў,
А Ты на ўсё глядзела.

Аддаў жыцьцё Ён за людзей,
За грахі людзкія.
Зараз мы павінны ўсе
Маліцца да Вас шчыра.

04.10.2002.

***

Да Будслаўскага касьцёлу
Як толькі прыходжу,
З Абразу Маці Божай
Вачэй я не адводжу.

Цеплыню Маці Божай
Я там адчуваю,
Галаву перад Богам
Я нізка схіляю.

Як дзяржыць Яна Сына,
Пана Бога Езуса.
І мяне Яны бачаць,
Як да Іх я малюся.

За здароўе сваё
І сваіх дзетак малюся,
Маці Божая наша,
Да Цябе я хілюся.

Ты мне памагаеш
Гора перажыць.
Я ніколі вас зь Езусам
Не змагу забыць.

28.01.2003.

***

Будслаўская Маці,
Наша Апякунка!
Усе мы Цябе просім,
Твайго паратунку.

Каб ад розных бедаў
Ты абараняла
І кожнае дзіцятка
К сабе прыхінала.

Каб нашыя дзеткі
Цябе так любілі
І ў Цябе здароўя
Заўсёды прасілі.

Калісьці зьявілася
У Будславе нашым.
Цяпер мы заўсёды
Вобраз Твой бачым.

Кожны ў касьцеле
На Абраз Твой глядзіць,
Як Маці Будслаўская
Езуса дзяржыць.

Табе пакланіцца
Людзі прыяжджаюць
З усёй Беларусі
І дзе толькі знаюць.

30.07.2003.

***

Маці Божая наша,
Езус Хрыстус наш Пане,
Зьявецеся людзям
У сваім убраньні!

Няхай людзі ўбачаць
Гэты цуд Ваш Нябесны.
Можа люд Беларусі
Тады стане чэсны.

Вы, Анёлы Сьвятыя,
Пакажэцесь таксама.
Хто ня верыць у Бога,
Можа пойдзе да Храма.

Людзей надта ўжо многа
Адвучылі ад Бога,
Бо камуністы рабілі
Вельмі кепскага многа.

Касьцёлы й цэрквы бурылі,
Усюды крыжы ламалі,
А хто ў Бога верыў –
З работы выганялі.

28.08.2003.

***

Як мы Цябе ждалі,
Будслаўская Маці,
Каб Ты пабыла ў нас
У кожнага ў хаце!

Абраз Твой цудоўны
Да мяне як несьлі,
Ідучы па дарозе,
Сьпявалі мы песьні.

А песьні сьпявалі
Канечне, сьвятыя.
Сьпяваць было цяжка,
Бо мы ўжо старыя.

Я доўга, Матуля,
Да Цябе гаварыла,
Здароўя ў Цябе
І ў Езуса прасіла.

Маліліся людзі
У нядзельку ў хаце,
Каб нас бараніла
Будслаўская Маці.

Дзякуй жанчынам,
Абраз хто мне нёс,
Дай Божа ім шчасьця
І добры ўсім лёс!

08.08.2004.

***

Вельмі лес вялікі рос
Каля Сэрвачы ракі.
Тут Бэрнардыны пасяліліс,
А таксама й мужыкі.

Лес яны тут пілавалі
І да Вільні выпраўлялі.
Спадабаліс ім мясьціны,
Сталі будаваць сабе хаціны.

Маці Божая зьявілась,
Убачылі пастухі
І ўсім апавядалі,
Што зьявіўся цуд такі.

Тут кляштарык збудавалі,
Места Будаю назвалі.
Памаліцца, пакланіцца
Сюды людзі прыяжджалі.

І зараз тут Касьцёл стаіць,
Вялікі і прыгожы.
Яго хацелі разбурыць,
Гэты Сьвяты Дом Божы.

Маці Божая зь Езусам
Касьцёл абаранялі
І камуністам разбурыць
Яны яго ня далі.

04.11.2004.

## ДОБРА, ШТО ДАЎ БОГ ЖЫЦЬЦЁ ЧАЛАВЕКУ

***

Прывёў муж дамоў каня,
Запрог у калёсы.
Мы прывезьлі сена воз –
Паправілі атосы.

Паехалі па другі,
Ужо на захад сонца.
Рада, думаю сабе,
Што будзе сена ў пуньцэ.

Пад’ехалі да капы,
Кажу мужу зразу:
– Каня ня трэба выпрагаць,
Няхай стаіць, зараза.

Сена муж кладзе на воз,
Я па ім тапчуся.
Конь як дзёрнуў гэты воз –
Я далоў валюся.

Грохнулася я плячмі,
У грудзях забалела,
Дыхаць зразу не дало,
Але не самлела.

На зямельцэ я ляжу,
Вылупіўшы вочы.
– Усё, - думаю, - канец!
Не дажыву да ночы.

Але ночку пражыла,
Прывезьлі ў бальніцу.
Праверылі дактары
Мяне, маладзіцу.

Дзякуй Богу й дактарам,

Што мне памагалі,
Каб здаровай стала йзноў,
Хваробу выганялі.

22.06.2002.

***

Прыйшоў сын з работы,
За стол усеўся,
Квасу зразу выпіў,
А потым наеўся.

Наеўшыся,
Ён лёг аддыхаць,
На бок павярнуўся
І стаў засынаць.

А дваццатай гадзіне
Яго стала будзіць:
– Уставай ты, мой сыне,
Будзем сена вазіць!

Мой сын не ўстае,
А толькі мычыць.
Я мужу кажу:
– Будзем самі вазіць!

Каб жа ты паслухаў,
Па сена паехаў –
Не ляжала б я
У больніцы калекай.

30.06.2002.

## Разьвітаньне

Як буду ўміраці ў бальніцы, ці дома,
Каб сьвечку мне далі ў рукі, вядома.
Са сьвечкай лягчэй мне будзе ўміраці,
На сьвет Боскі гляну і буду канаці.

Вы, дзеці і ўнукі, ня плачце, ня трэба,
А Бога прасеце, каб узяў Ён да Неба.
У пасьледню дарогу мяне прыбярэце,
Прыбраную, хутка ў труну палажэце.

У гэтай новенькай "хаце" вельмі цёмна мне будзе,
Я ўжо вас ня ўбачу, дарагія людзі!
За мяне памаліцца Ксяндза запрасеце,
Таксама на могілкі з Ксяндзом правядзеце.

Няхай ён пасьвеньціць мне цёмную яму,
Я мо́жа хутчэй там знайду сваю маму.
У сырую зямельку труна зь целам пойдзіць,
І я больш ніколі ня буду прыходзіць.

Ніхто і ніколі адтуль не вярнуўся,
Каб толькі сам Бог да мяне дакрануўся!
Любімыя дзеткі, стол добры зрабеце,
Усіх, хто прыходзіў, вы пакармеце.

Пеўчым жанчынам цукеркі пастаўце
І смачнай вадзіцы ўсім налівайце.
Няхай добрым словам вас людзі ўспомняць!
А я на тым сьвеце ўсё буду помніць.

Вясною шмат кветак вы мне пасадзеце
І ўвосень магілку маю прыбярэце.
А я ўсіх родных там буду шукаці,
Бо мне вельмі многа ім трэба сказаці.

28.08.2002.

## **Непатрэбна!**

Беларусь, мая матуля,
Як цябе мне шкода!
Цябе цягнуць у Расею –
Для іх гэта выгода.

А навошта нам яднацца?
Мы і так суседзі.
Родных там сваіх адведаць,
Хто хоча – паедзе.

А народ наш беларускі
Вельмі працавіты.
Дзякуй Богу за ўсё гэта,
Што Богам не забыты.

Хопіць нам аднаго гімна,
Навошта саюзны?
А народ наш беларускі
З усімі й так дружны.

А зьяднаўшыся ў саюз,
Ня тое ўжо будзе.
Вы падумайце ўсе,
Дарагія людзі!

22.01.2003.

***

Добра, што даў Бог жыцьцё чалавеку!
Але ня знае ніхто свайго веку.
Жыць жа на сьвеце вельмі прыгожа!
Хто добра працуе, дае яму Божа.

Лясы і палі – гэта наша багацьце.
Хто гэта ўсё любіць, той мае ў хаце.
А той, хто ня дружыць з прыродай даўно,
Глядзіць у гарэлку і ў віно.

У сем’ях такіх надта дзеці гаруюць,
А бацька і маці па іх не сумуюць.
Ці елі што дзеці, яны не глядзяць –
Усе думкі аб тым, як гарэлкі дастаць!

Адзін за другім стараюцца піць
І на работу каб не хадзіць.
А Божа жыцьцё даў чалавеку,
Каб ён працаваў да канца свайго веку.

10.07.2006.

***

Бязь сьвету зараз мы сядзім –
Электралінію праводзяць.
І радыё зараз маўчыць,
І сэрыялаў не глядзім.

А як раней жылі ўсе людзі!
Ня кожны нават лямпу меў,
І пры лучыне кросны ткалі,
І калаўрот ва ўсіх гудзеў.

Але народ тады быў лепшы,
Адзін другому памагаў.
А зараз трэба ўсіх баяцца:
Глядзі, каб хтосьці што ня ўкраў.

Такіх ёсьць шмат, што не працуюць,
А выпіць хочуць і закусіць.
Вось і лазяць па кватэрах,
Каб грошы як сабе здабыць.

А Бог жа гэта ўсё бачыць,
Усю гэту благату.
Вось перад сьмерцю можа ўспомняць,
Што не рабілі дабрату.

23.02.2008.

## МОЙ СЫНОК, ЯК ТЫ ДАЛЁКА...

### Успаміны

Хоць у пакутах, але добра,
Што нарадзіўся ты, сынок.
Дай Божа шчасьця табе й долі,
І сонца яснага вянок.

Няхай заўсёды сонца грэе
Цябе, сынку, і людзей.
Каб я смутку больш ня мела
І жыла ў сьвятле надзей.

Як жа страшна мне ўспомніць,
Як таптала я ашфальт
Дзесяць месяцаў пакутных
У КГБ і ў той цэнтрал.

Колькі  ночак недаспала,
Усё бегла на цягнік,
Каб даехаць мне да Менску,
І кляла цэнтрал, каб зьнік.

За жалезнымі дзьвярыма
У бальніцы сын ляжаў,
Прыкаваны кайданамі,
І патруль над ім стаяў.

Добрым людзям там ня трэба,
Каб ніхто там не ляжаў.
Мейсца там для тых забойцаў,
Хто ад тлушчу атухаў.

Дзякуй Богу й добрым людзям,
Што вярнулі мне сынка!
Я ніколі не забуду,
Пакуль буду жыць сама.

08.03.2002.

## У Менску

Як зайшла толькі ў кватэру,
Стала распранацца,
Зазваніў мой тэлефон,
Я давай сьпяшацца.

Падыходжу да стала,
Трубку я здымаю
І з прыемным голасам
Я тут размаўляю.

Гэта звоняць з “Нашай Нівы”,
Пытаецца пра сына,
А я ў адказ ёй гавару:
– Яго няма ў краіне.

Ён паехаў да Эўропы
Грошай зарабіць.
Бо ў краіне, у сваёй,
Ня змог ён іх здабыць.

14.10.2002.

***

Пазнаёмілася я
З цудоўнаю жанчынай.
Вікторыя Ільлінская –
Сяброўка майго сына.

А Вікторыя сама,
Хоць і расіянка,
Па-беларуску размаўляе,
Гэта грамадзянка.

Альбом песень запісала
На вершы майго сына.
Яна цудоўны голас мае,
Гэтая жанчына.

Дзякуй Богу, што ёй даў
Галасок цудоўны.
Няхай заўсёды весяліць
Народ памяркоўны.

28.10.2002.

***

Вельмі цяжка было мне
З сынам разьвітацца.
Цяжка было й яму
Зь Менскам расставацца.

Працы тут ня меў мой сын,
У сваёй краіне.
Няхай працуе ў Эўропе,
Пакуль штосьці згіне.

Дзе хацеў сын працаваць,
Яму не дазвалялі.
І хадзіць было ўжо страшна –
Ціхары зьбівалі.

20.01.2003.

***

Мой сынок, як ты далёка,
У краіне халадоў!
Адзін Бог толькі ўсё знае,
Калі вернесься дамоў.

Каб было ўсё толькі добра:
Мову вывучыў хутчэй,
Краіну тую распазнаў –
І працаваць будзе лягчэй.

Я добра ведаю, што цяжка
З сваёй краіны выязджаць.
Але нічога тут ня зробіш,
Бо ты ня змог тут працаваць.

Шмат пакуты перажыў
Ты ў сваёй краіне.
Вер, народ чужы
Цябе не пакіне.

Дзякуй добрым гэтым людзям,
Хто прытулак табе даў.
Каб крыху лепш табе жылося,
Сам Бог табе дапамагаў.

10.02.2003.

***

З хаты я ішла да хлева.
Чую, штосьці загудзела.
Глянула я на дарожку
І зьлякнулася ледзь трошку.

Бачу – там машына едзе,
Чарна-сівы “казялок”.
Не чакала я нікога:
Хто ж тут гэткі за панок?

Бачу, выйшлі із машыны
Тры прыгожыя жанчыны,
А чацьверты быў мужчына:
Ну, красунчык, як карціна!

У “казьле” шафёр сядзеў
І на нас на ўсіх глядзеў.
Мы стаялі, размаўлялі,
Помач мне прапанавалі.

Я ў хату запрашала,
Я ўсіх бы гасьцявала:
Дзякуй Богу, ёсьць і шкварка,
Да яе была б і чарка.

Але есьці не схацелі,
На гадзіньнікі глядзелі.
Гэты прыгажун-мужчына,
Дзякаваў ён мне за сына.
Што такога нарадзіла,
Каб малва аб ім хадзіла.

10.05.2005.

***

На прэзэнтацыі была,
У Менску, вядома.
Вельмі цудоўна ўсё было,
Ня тое, што дома.

Кожны там, хто выступаў,
Пра сваю бяду казаў:
Як хапалі і таўклі,
На Валадарку валаклі.

І я там верш свой расказала,
Як свайго сына выпраўляла,
Каб лепш яму жылося там.
У турму я больш яго ня дам.

Абедам добрым частавалі,
Вадзіцы смачнай нам давалі.
Чаго там толькі не было!
Усім настрой нам падняло.

Там журналістаў было многа,
Здымалі многа яны нас.
Ды вось работа ў іх такая:
Каб былі здымкі на запас.

У газэтах пісаць будуць
І па радыё казаць.
А вось нікому не ўдалося
Нас адтуль паразганяць.

22.05.2009.